# Прычыны разладу у Царкве.

У канцы студзеня с. г. у Крэмянцы адбыўся чародны гадавы Валынскі Епархіяльны Зьезд, на якім, апрача звыш 70 асоб духаўнікоў, былі прысутнымі ўкраінскія паслы і прадстаўнікі ад Т-ва П. Магілы і Луцкага Брацтва. Працы зьезду вяліся на ўкраінскай мове. Зьезд вынес цэлы чарод пастановаў, з каторых найцікавейшымі зьяўляюцца наступныя:

1. Пропаведзі ў царкве і за яе мурамі павінны гаварыцца выключна ў мове украінскай.

2. Выкладаньне Закону Божага ў школах павінна адбывацца ў мове украінскай.

3. Багаслужэньне ў царквох Валынскае Эпархіі павінна адбывацца ў мове украінскай, калі толькі гэтага зажадаюць прыхаджане.

4 Выкладовай мовай у школе псаломшчыкаў у Крэмянцы павінна быць мова украінская.

5. Выражаецца падзяка для Валынскай Кансысторыі, а гэта за ўвядзеньне ёю ўкраінскае мовы ў дзелаводства і перапіску з духавенствам.

6. Духавенства Валыні заклікаецца да ўступленьня ў Т-ва П. Магілы, якому з эпархіяльных сумаў вызначаецца 3 500 зал. а гэта на выдаваньне украінскае часопісі „За Соборність“.

7. З тых-жа сумаў вызначаецца 10.000 зал. на выдаваньне сталае эпархіяльнае часопісі, зразумела, на украінскай мове.

8. З асыгнаваных на Сьв. Сынод 48.000 зал. адымаецца 6.000 зал., якія перадаюцца на украінскія гімназіі.

9. Благачынных будзе выбіраць само духавенства.

10. З сумы выдаткаў скрэсьліваецца 2.400 зал., якія атрымліваў кансысторскі юрысконсульт, адвакат Первенцаў, ведамы расейскі дзеяч з РНО.

У адказ на гэтыя пастановы расейская прэса пачала востра выступаць супроць архіеп. Аляксея, стараючыся здыскрэдытаваць яго ў вачох грамадзкае апініі. Робяцца закіды, што ўсе гэныя пастановы выкліканы ня з увагі на дабро царквы, але звычайнымі палітычнымі вырахункамі. Расейская газэта „Наше Время“ дык нават даходзіць да таго, што гэтыя пастановы лічыць за выражэньне недаверу Сьв. Сыноду.

Здаецца, аднак, на гэтыя пастановы трэба заглядацца крыху інакш, а лепш кажучы, больш чэсна. Бо-ж хіба ня прыходзіцца і лічыць за „палітыку“ тое, што для украінскага праваслаўнага насельніцтва пропаведзь і Закон Божы будуць выкладацца ў украінскай мове. Зьявішча гэнае ёсьць зусім натуральным. Больш ненатуральна выглядае тое, калі беларускаму і украінскаму насельніцтву гвалтам накідаецца мова расейская. Вось тут дык маем дачыненьне з „палітыкай“ і то нічога супольнага ня маючай з дабром царквы. Адбываць службы Божыя на украінскай мове дазволіў у свой час Сьв. Сынод, ён хіба-ж наяўных мэтаў гэтым не асягаў? магчыма, што на 3.000 прыхаджан у нейкім прыходзе знойдзецца 100 расейцаў, якім ясна не спадабаецца літургія на украінскай мове. Але-ж трудна вымагаць, каб 2.900 чалавек падпарадкаваліся ненатуральным хаценьням успомненых дзесяткаў расейцаў

Калі-ж урэшце недзе так і бывае, то якраз-жа там мы маем дачыненьне з гвалтамі і палітыкай у Царкве.

Валынскі Зьезд вызначае 13.500 зал. на украінскія праваслаўныя часопісі. І ў гэтым таксама ніякае палітыкі дагледзіць ня можна. Зьезд папросту дацаніў значэньне роднае мовы ў паглыбеньні ў народзе асноваў Праваслаўнае Веры. І наадварот, трэба назваць палітыкай „чыстай вады“ той факт, што мітраполія дзьве часопісі і ўсе амаль публікацыі выдае ў мове расейскай, для 99 прац. вернікаў калі ўжо не варожай, то ў мове абсалютна незразумелай. І гэта робіцца якраз-жа за грошы гвалтам спагнаныя з беларусаў і ўкраінцаў. Урэшце, ўспомненыя быццам рэлігійна - ўзгадаваўчыя часопісі зьяўляюцца ня толькі расейскімі па мове, але і па свайму напрамку і духу. Вось-жа бараніцца супроць палітычнага гвалту гэта яшчэ ня ёсьць палітыка.

Успомненае „Віл. Время“ асыгнаваньне 6.000 зал. на ўкраінскія гімназіі ўважае за выражэньне недаверу Сьв. Сыноду. Як ведама, архіеп. Аляксей зьяўляецца сябрам Сьв. Сыноду і таму недарэчна думаць, каб сам сабе выражаў недавер. Калі недавер і выражаны, то толькі адносна мітраполіі. Аднак і ў гэтым няма ніякае дэманстрацыі ці палітыкі. Людзі, якія безадказна зьневажалі сан і аўтарытэт сваіх епіскапаў, якія віхрылі і разбуралі жыцьцё царквы, якія свой сан сьвяшчэніцкі панізілі грубым палітыканствам, вось-жа ўсе гэныя адзінкі не пакараны а наадварот, знайшлі прыпынак у мітраполіі, для іх там творацца адумысныя становішчы. Утрымліваюцца-ж гэныя адзінкі якраз-жа з сумаў, якія выціснуты пераважна з беларускага і украінскага селяніна, каторага ўспомненыя адзінкі, каб маглі, дык праглынулі-б. Ясна, лепш аддаць 6.000 зал. на бедных вучняў, чымся на гэткіх духаўнікоў. І гэта не палітыка, гэтак паступіў-бы кожны чэсны і культурны чалавек. Няма таксама ніякае палітыкі і ў тым, што вясковае духавенства само будзе выбіраць благачынных. Гэткі спосаб толькі падніме аўтарытэт і духовую вартасьць благачынных і разам з тым спыніць „беззастенчивое“ лякайства і якраз-жа — палітыканства. Урэшце выбар благачынных духавенствам — гэта толькі яшчэ адзін шаг наперад да поўнае саборнасьці, якую-ж афіцыяльна прызнае і мітраполія.

Гэтых некалькі кароткіх думак ужо ў пэўнай меры гавораць аб тым, што пастановы Валынскага зьезду не зьяўляюцца палітычнай дэманстрацыяй, а хіба якраз саматужнай самаабаронай перад палітыкай і палітычнымі дэманстрацыямі расейскага захопніцтва, імкнучагася з царквы зрабіць сабе мітынговую трыбуну. Аднак, дапусьцім на хвіліну, што і украінцы ўводзяць у царкву палітыку, а мітраполія, прызнаючы натуральныя правы чалавека, змагаецца толькі з палітыкай.

Дагэтуль беларусы яшчэ ня зладзілі „Пачаеўскай дэманстрацыі“, ніколі не дамагаліся беларусізацыі літургіі, уся іх „царкоўная палітыка“ зводзілася толькі да таго, што лічылі патрэбным ўвесьці беларускую мову ў пропаведзі і катэхізацыю, дамагаліся беларускіх царкоўных публікацыяў і зьбе ларушчаньня Кансысторыяў. Усё гэта зьяўляецца прымітыўна прыродным правам кожнага чалавека, што здаволіць, як слушнае, абяцалі тысячы разоў нашыя іерархі і мітраполія. Аднак і да сяньня ў беларускіх па свайму насельніцтву епархіях пропаведзі і катэхізацыя адбываюцца ў мове расейскай, якая нячэсна часамі называецца «материнским языком», «понятным наречием», «так, как говорят крестьяне» і т. д. У кансысторыях на нашых землях беларусоў амаль ня знойдзеш, усе кіраўнічыя становішчы абсаджаны расейцамі, прапаганда расейшчыны адбываецца амаль адкрыта. Няма і дагэтуль беларускіх праваслаўных календароў ці часопісі, зьнікла беларускае слова і з мітрапалітальнага органу і ў гэты самы час на нашых землях на царкоўных пагостах пашыраюцца «Русский Голос», «Русское Слово», расейска-віталь еўскія замежныя календары і брашуры. Калі грам. Р. Астроўскі зьявіўся на епарх. зьезд з просьбай здаваленьня нарэшце няраз ужо абяцанага і беларусом належнага, быў брутальна запынены «героем-батюшкой», які ня кару за гэта атрымаў а толькі «благодарность Епарх. Начальства». Некалькі тысяч праваслаўных беларусаў Вільні і да сяньня ня мае сваёй прыходскай царквы, хоць жа няраз гэтага дамагаліся і атрымлівалі прыхільныя абяцаньні.

Словам, з усяго вышэй сказанага адно ясна вынікае, што расейцы ў сваім захопніцтве выказываюцца найдалей ідучай двудушнасьцю. Калі украінцы загаварылі ў сябе ў хаце паукраінску, супроцьставіліся расейскім апэтытам, гэта крыкліва называецца «политика в церкви». Калі-ж расейцы гвалтам дэнацыяналізуюць беларускую вёску, топчуць нашы натуральныя правы і пачуцьці, а мы толькі парлямэнтарна дамагаемся, то ўсё гэта «согласно церковной традиции». Зразумела, прайсьці каля гэтага моўчкі мы ня маем права. Украінцы, як бачым, сяньня чуюцца пераможцамі, і ня з прычыны парлямэнтарных гутарак пасла Хруцкага, але дзякуючы слаўнаму Пачаеўскаму ўздыму. І гэта павінна быць для нас навукай — на пустых гутарках мусім паставіць крыжык і пачаць арганізавацца на больш дзейную абарону царквы і сябе. Хай сабе тады расейцы называюць гэта «палітыкай ў царкве». Наш адказ будзе кароткі — быў час, калі мы прасілі, хто-ж гэтага не патрапіў ацаніць ці пачуць, той ня мае права цяпер закідаць нам палітыканства.

*І. Хмарук.*

# Рухі сярод эўрапейскай моладзі.

У гэтым артыкуле маю замер сынтэтычна выказаць беларускай моладзі сучасную сытуацыю руxаў сярод моладзі эўрапейскай наагул, а асабліва польскай, і на гэтым фоне магчымасьці шуканьня беларускай моладзю супольнай ідэі, якая патрапіла-б сцэнтралізаваць усе яе высылкі і дзеяньне так, каб быў захаваны нацыянальны ідэал і адкрытае дзейнае імкненьне да лепшай прышласьці ў рамах польскай дзяржаўнасьці.

Кожнае маладое пакаленьне мае тую ўласьцівасьць, што імкнецца ўвесьці ў жыцьцё новыя вартасьці, стараецца вычыркнуць старыя, каторыя сваю ролю ўжо споўнілі і, як творы старога пакаленьня, неадпавядаючыя новай сапраўднасьці, павінны адыйсьці беспаваротна ў мінуўшчыну.

Вельмі часта старэйшыя, прывычаіўшыся да тэй ці іншай формы,—свайго дарагога твору, узмацніўшы сваю псыхіку, сьветапагляд і мараль у рамках гэтай формы, ня хочуць пакінуць без барацьбы сваіх позыцыяў — тады час выконвае вельмі важную работу, награмаджае дынамічную сілу для рэакцыі, каторая выбухае тым мацней, чым больш гэтых сілаў набралося. У гэтым прыпадку найчасьцей рэакцыя прыймае постаць рэвалюцыі. Калі-ж старэйшыя, якія ўмеюць ацэніць вартасьць маладое думкі, уступаюць бароначы толькі тыя дадзеныя, якія маюць сталую вартасьць у гісторыі пакаленьняў і зьяўляюцца працягам здаровых традыцыяў дадзенага грамадзянства, — тады рэакцыя праяўляецца лагодна, новыя формы ўваходзяць у жыцьцё эвалюцыйна, бяз устросаў.

Якое-ж цяпер грамадзка-палітычнае палажэньне ў Эўропе і якія цячэньні абмываюць сяньняшняе пакаленьне.

На захадзе, у Нямеччыне, пераможанай у апошняй сусьветнай вайне і рэвалюцыйна настроенай дэтронізацыяй кайзэра, пачалася эра соцыялізму, якога радыкальнае крыло, падбухторванае прапагандаю з Усходу, пачало пагражаць дзяржаве камуністычным ладам. Частка нямецкай радыкальнай моладзі знайшла там сабе месца, прыймаючы бяскрытычна чужую ідэю; другая частка, якая расчаравалася нямецкім мілітарызмам, здэмаралізаваная вайною і цяжкой барацьбой за існаваньне, блуталася бяз мэты, будучы таксама ў дзяржаве элемэнтам опортуністычным.

З бегам, часу ў выхаваўчым варштаце імя каторага: школа, прэса, унівэрсытэт, кіно, тэатар, кніжка, пачынаецца бязьлітасная кампанія проціў вэрсальскага трактату. Адначасна школа, дзякуючы спэцыяльным выхаваўчым мэтодам, узмацняе ў маладых галовах неракананьне, штоўсёж-такі „Deutschland ueber Alles *). За памылкі ў пісьменных працах загадвалася вучням пісаць па некалькі дзесяткаў разоў такія сказы: „Вэрсальскі трактат ёсьць памылкай гісторыі і крыўдай для Нямеччыны“, „Аж 42 дзяржавы змушаны былі злучыцца, каб перамагчы Нямеччыну, але яе не перамаглі“, і г. д.

Каля асобы сяньняшняга павадыра Нямеччыны, Адольфа Гітлера, пачынае гуртавацца моладзь. Кінуўшы лёзунгі проціў інтэрнацыяналізму, Гітлер памалу высоўвае на першы плян нацыянальныя пытаньні. Дзеля гэтага пачынае бязьлітасную барацьбу перадусім з камуністамі. Пажар Рэйхстагу дае яму моцны козыр у рукі проціў камуністаў. Частка нямецкай апініі, якая дагэтуль крытычна, а нават нэгатыўна адносілася да гітлероўскага руху, пераходзіць на яго бок.

Ня гледзячы на гэта Гітлер ня мае яшчэ большасці. Трэба збудзіць увесь народ, пакіраваць ім так, каб верыў толькі сам у сябе. Дзеля гэтага Гітлер кідае кліч: „Жыды вінаваты, што Нямеччына праіграла“. Нямецкі народ вялікі, — але трэба ачысьціць яго ад усялякіх чужых наплываў. У габінэтах вучоных антрополёгаў нараджаюцца навуковыя постуляты аб нордыцкім паходжаньні немцаў, аб вышшасьці нордыцкай расы над усімі іншымі, з чаго ўрэшце выплывае нямецкі месіянізм. Цяпер кажды запраўды верыць, што „Нямеччына над усім“. Усіх тых, каторыя чыстату нямецкай культуры брудзілі сваёй думкай, чыстату нямецкай расы— сваёй крывёю, трэба было змусіць, каб пакінулі Нямеччыну. Да антыжыдоўскай акцыі приступае перадусім моладзь і чым больших дасягае рэзультатаў у сваім паходзе, тым вялікшае мае пачуцьцё споўненага абавязку. Гітлер запанаваў над містыкай натоўпу, стаўся яго гаспадаром і богам, а гітлерызм дачаснай рэлігіяй масаў. Наіўныя кажуць, што гітлерызм ёсьць рухам моладзі, бо моладзь са свастыкай стаіць у першых радох. Няпраўда! Думка гітлероўскай моладзі зачынена дужкамі гітлерызму, прадукту павадыра; моладзь бяскрытычная, бо яна ня можа інакш думаць, чымсь вымагае ад яе гітлерызм і яго эманацыя —расізм. Моладзь ня творыць самастойна новых вартасьцяў, а зьяўляецца толькі прыладаю, пры помачы якой павадыр робіць тую ці іншую форму з прыгатаванай ім плястэліны.

*(Працяг будзе).*

*) *Нямеччына над усім.*

# Пісьмо у рэдакцыю.

Паважаны Пане Рэдактар!

Прашу Вас надрукаваць у сваёй газэце наступнае:

Я даведалася, што ў цэлым радзе газэтаў ад 18-20 лютага было надрукавана, што я быццам была паінфармавана нейкай асобай, прыехаўшай з Савецкай Расеі аб растрэле майго мужа Браніслава Тарашкевіча.

Каб сьцвердзіць праўду і спыніць пісьмы з выразамі спачуцьця, якія я дастаю, заяўляю, што ніякіх падобных інфармацыяў ня мела. Наадварот, ад мужа, які больш году працуе як эканаміст ў Маскве, дастала пісьмо ад 13-га лютага і тэлеграму ад 20-га лютага, ў якой муж просіць супакоіць сваю матку.

Прашу газэты, якім залежыць не на „газэтных качках“ але на праўдзе, перадрукаваць гэтае запярэчаньне.

Прыміце і т. д. *Вера Тарашкевіч.*

24. II. 1935 г.

